*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

№ 224 (576)

Субота, 12 снежня 1998 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля




## Совместное заявление министра иностранных дел Республики Беларусь и Председательства Европейского Союза

1. Министр иностранных дел Республики Беларусь и Председательство Европейского Союза, действуя на основе переговоров, состоявшихся с 2 по 9 декабря 1998 года, руководствуясь желанием найти взаимоприемлемый путь к улаживанию ситуации, сложившейся в связи с тем, что резиденции глав представительств государств — членов Европейского Союза на территории комплекса "Дрозды" в соответствии с положениями Венской конвенции о дипломатических сношениях пользуются защитой и являются неприкосновенными, в то время как данная территория объявлена резиденцией президента Республики Беларусь, — делают следующее заявление с целью политического решения упомянутой ситуации:

2. Республика Беларусь будет путем активного содействия и сотрудничества стремиться обеспечить заключение долгосрочных соглашений о заселении главами дипредставительств новых резиденций в соответствии с положениями Венской конвенции о дипломатических сношениях. Заинтересованные представительства, в свою очередь, будут стремиться к тому, чтобы максимально сократить период времени, необходимый для выработки договорных документов о новых резиденциях. В течение этого периода, возможно, возникнет необходимость арендовать временные резиденции.

3. Как только представительства направляющих государств займут свои временные или постоянные резиденции и известят об этом Министерство иностранных дел Республики Беларусь, главы представительств после соответствующего согласования в рамках ЕС вернутся в Минск, уведомив Министерство иностранных дел Республики Беларусь, чтобы в течение одного месяца после возвращения освободить резиденции, находящиеся на территории комплекса "Дрозды".

4. В соответствии с положениями Венской конвенции о дипломатических сношениях, особенно в части, касающейся неприкосновенности резиденций глав представительств, и с учетом того обстоятельства, что в отношении помещений, находящихся в комплексе "Дрозды", имеют/имели силу договоры об их аренде, резиденции в "Дроздах" будут доступными согласно следующим правилам:

а) главы представительств в указанный в п.3 период будут иметь широкий доступ к своим резиденциям на территории комплекса "Дрозды", чтобы организовать подготовку и осуществление окончательного их освобождения. Представительства не позднее, чем за 24 часа поставят Министерство иностранных дел Республики Беларусь в известность о первом доступе к резиденциям и об их окончательном освобождении;

б) члены персонала представительств отныне будут иметь доступ к арендованным ими резиденциям на территории комплекса "Дрозды", если это необходимо, но не реже трех раз в месяц, причем они должны уведомлять власти Беларуси об этом не позднее, чем за 24 часа. Доступ персонала представительств в период доступа послов возможен в рамках договоренностей, согласованных в пунктах 4а и 4б.

5. С момента поступления сообщения о том, что освобождение арендованных на территории комплекса "Дрозды" резиденций завершено, существующие договоры об аренде будут считаться недействительными, если уже и без того не истекли сроки их действия.

6. Белорусская сторона берет на себя выплату компенсации, размер и процедура возмещения которой должны быть определены в ходе двусторонних переговоров, которые стороны начнут безотлагательно после освобождения послами резиденций в комплексе "Дрозды".

7. Государства, резиденции глав дипломатических представительств которых располагаются на территории комплекса "Дрозды", не входящие в состав Европейского Союза, могут присоединиться к настоящим договоренностям по своему желанию.

8. Настоящее Совместное заявление будет обнародовано в Брюсселе, Вене и Минске.

# Уладам трэба выконваць свае абавязкі перад народам, а не адгароджвацца ад яго частаколам АМАПа, міліцыі, судоў і пракуратуры

Так коратка можна перадаць пратэст кіраўнікоў шэрагу грамадскіх арганізацый Гомеля, які яны заявілі з выпадку пераследу старшыні Гомельскага аддзялення Беларускага Хельсінкскага камітэта Яўгена Мурашкі. Яны паведамляюць, што судом Цэнтральнага раёна Гомеля гэты актывіст асуджаны на 10 сутак за тое, што стаяў на вуліцы горада з плакатам, у якім крытыкаваў урад. Суддзя Марына Дамненка кваліфікавала гэта як незаконны пікет і адправіла немаладога чалавека, які толькі што выпісаўся з бальніцы, на турэмныя нары.

Аўтары пратэсту пішуць, што замест вырашэння надзённых праблем людзей, даведзеных голадам і жабрацтвам да цяжкага стану, дзяржава падаўляе ўсялякі пратэст, усялякае іншадумства. "Мы патрабуем ад улад выконваць свае абавязкі перад народам, а не адгароджвацца ад яго частаколам АМАПаўцаў, міліцыі, судоў і пракуратуры", — заканчваюць яны свой допіс. Яго падпісалі кіраўнікі рэгіянальных арганізацый — аб'яднання "Грамадзянскія ініцыятывы", "Грамадзянскага форуму", Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Сапегі, "Маладой Грамады" і іншых.

Гэтае іх патрабаванне перагукваецца з паведамленнямі з іншых месцаў рэспублікі, якія паступілі ў рэдакцыю, у прыватнасці, з Мінска, Наваполацка... Яны сведчаць: у краіне нарастае вал народнага пратэсту.

**Васіль КРАЎЧУК.**

## Акцыя пратэсту супраць росту цэн

Нястрымны рост цэн на асноўныя прадукты харчавання і паслугі можа прывесці да сацыяльнага выбуху, лічыць лідэр Свабоднага прафсаюза Беларускага Марыя Аліева. За змяненне сацыяльна-эканамічнай палітыкі, якую праводзіць урад, і выступілі актывісты гэтага руху працоўных. Яны сабраліся 9 снежня каля сталічнага Палаца спорту.

Мітынгуючыя, а іх сабралася амаль дзвесце чалавек, вылучылі патрабаванне аб павышэнні мінімальнага ўзроўню заработнай платы. На іх думку, яна не павінна быць ніжэй чым сто долараў. Акрамя таго, прафсаюзныя актывісты настойваюць на наданні аплаце працы статусу першачарговага плацяжу.

**Валянціна МЕНШЫКАВА.**

## Супрацоўнікі міліцыі збілі 16-гадовага актывіста "Маладога фронту"

Як стала вядома, вечарам 9 снежня, пасля заканчэння санкцыянаванага мітынгу, арганізаванага Свабодным прафсаюзам Беларускім, у раёне Палаца спорту ў Мінску супрацоўнікамі міліцыі быў збіты 16-гадовы актывіст "Маладога фронту" Станіслаў Карашчанка. Пасля затрымання яго даставілі ў Цэнтральны РАУС, дзе пратрымалі некалькі гадзін і склалі пратакол аб удзеле ў мітынгу, прысвечаным 50-годдзю прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, які прайшоў у Мінску 6 снежня.

У гутарцы Станіслаў паведаміў, што яго затрымлівалі асобы ў цывільным, якія прадставіліся супрацоўнікамі крымінальнага вышуку, аднак не прад'явілі пасведчанняў. Пры затрыманні адзін з іх ударыў Карашчанку ў твар, потым яго павалілі на зямлю і цягнулі да машыны за каўнер курткі. Прахожым, якія спрабавалі заступіцца за падлетка, адказвалі, што ён затрыманы па падазрэнні ў забойстве. У машыне Станіславу нанеслі некалькі ўдараў лакцямі ў спіну і зневажалі нецэнзурнай лаянкай. У Цэнтральным РАУС затрыманага працягвалі падвяргаць маральнаму ўціску, пагражалі, а таксама зневажалі яго і арганізацыю, у якой ён лічыцца.

Пасля таго як С.Карашчанку адпусцілі з РАУС, ён звярнуўся па медыцынскую дапамогу ў 5-ю клінічную бальніцу. Дзяжурны хірург і неўрапатолаг зафіксавалі ў падлетка шматлікія выцятыя месцы мяккіх тканяў галавы. Станіславу выдадзена накіраванне для амбулаторнага лячэння ў паліклініцы па месцы жыхарства. С.Карашчанка мае намер падаць заяву ў пракуратуру, а таксама ў розныя праваабарончыя арганізацыі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Конгресс демократических сил скажет свое слово

В редакцию звонят читатели и спрашивают: действительно ли состоится Конгресс демократических сил Беларуси? И когда?

Мы уточнили: Конгресс демократических сил Беларуси пройдет в Минске в конце января 1999 года. Представители большинства демократических партий, объединений и профсоюзов примут участие в этом мероприятии, которое выработает стратегию поведения оппозиции на весну-лето будущего года. Цель Конгресса — консолидация оппозиционных сил, выступающих за демократическое развитие, соблюдение законности и прав человека в Беларуси в период окончания полномочий нынешнего президента.

**Віншуем !**



Дынара Мазітава — лаўрэат двух міжнародных конкурсаў юных кампазітараў. Яна сачыніла шэраг маленькіх фартэп'янных п'ес, оперу і іншыя творы. Дынара — стыпендыят Беларускага дзіцячага фонду.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

## "Слова" становіцца унікальнай з'явай

### Грамадскі камітэт па святкаванні 2000-годдзя Беларусі прыняў тэкст звароту да беларусаў свету

Тэкст звароту да беларусаў свету быў падпісаны 9 снежня ў Мінску на чарговым пасяджэнні грамадскага аргкамітэта па святкаванні 2000-годдзя Беларусі. Зварот называецца "Гераічны і драматычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы — слова нацыянальнага грамадскага аргкамітэта "Беларусь — 2000 гадоў"; бліжэйшымі днямі яго тэкст будзе абнародаваны сродкамі масавай інфармацыі.

Нагадаем, што 18 чэрвеня аб'яднанне беларусаў свету "Бацькаўшчына" выступіла з ініцыятывай святкавання 2000-годдзя Беларусі ў ліпені 2000 года. За прайшоўшы перыяд членамі аргкамітэта — вядучымі беларускімі вучонымі — падрыхтаваны тэкст "Слова", які ўключае асноўныя факты станаўлення беларускага этнасу, яго гісторыі і культуры, упершыню выкладзеныя канцэптуальна.

Па словах старшыні Рады "Бацькаўшчыны" Ганны Сурмач, у сувязі з гэтым "Слова" становіцца унікальнай з'явай у беларускай гісторыяграфіі, паколькі дазваляе разбурыць міф аб непаўнацэннасці беларускай нацыі. Звяртаючыся да інтэграцыйнай палітыкі цяперашніх беларускіх улад, якая можа прывесці да страты дзяржаўнасці, аўтары "Слова" ўзгадваюць гістарычныя ўрокі Люблінскай уніі 1569 года. Як вядома, у выніку пагаднення аб дзяржаўна-палітычным саюзе Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ) з Польшчай, на падставе якога ўтварылася федэратыўная дзяржава — Рэч Паспалітая, сваю дзяржаўную незалежнасць спачатку страціла ВКЛ, пакораная Польшчай, а потым Рэч Паспалітая, падзеленая паміж Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй.

На наступным пасяджэнні аргкамітэта будзе зацверджаны праект праграмы святкавання 2000-годдзя Беларусі, рэалізацыя якой, на думку арганізатараў, надасць святкаванню шырокі рэзананс, будзе садзейнічаць патрыятычнаму выхаванню беларускага народа, а таксама павышэнню аўтарытэту Беларусі як старажытнай еўрапейскай дзяржавы. У сувязі з тым, што праграма ўключае мноства даволі складаных праектаў, яе поўная рэалізацыя разлічана не толькі на перадсвяточныя гады, але і на будучыню.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Выбор в пользу свободы

Провозглашенная в ноябре 1997 года гражданская инициатива Хартия'97 основной своей целью поставила создание системы коллективной безопасности граждан. За этот год костяк этой системы создан. Материальную, юридическую и другую помощь от Хартии получили около 400 граждан Беларуси, пострадавших от действий властей. Проведено более 60 пикетов, митингов, концертов и других акций в поддержку политзаключенных и в защиту прав человека. Налажено оперативное информационное реагирование на незаконные действия властей. Через представительства Хартии в Брюсселе и Нью-Йорке информация о ситуации в Беларуси становится известной всему миру.

Тоталитарный режим по природе своей стремится к подавлению свободы повсюду. Но в отличие от советского монстра, продержавшегося 80 лет, белорусская диктатура не располагает ресурсами, а потому быстро отступает, когда встречает на своем пути сопротивление. И каждый, "кто встал на путь борьбы за свои права и человеческое достоинство, могут быть уверены в общей поддержке". Так написано в тексте Хартии'97, который на сегодняшний день подписали более ста тысяч белорусских граждан, сделавших свой выбор в пользу **Свободы.**

**Дмитрий БОНДАРЕНКО, член оргкомитета Хартии'97, директор Фонда поддержки независимой прессы.**

**Трагедыя**

## Па аўтамагістралі Масква — Беларусь бізнесменам ездзіць небяспечна

У Гродне аб гэтай жудаснай крывавай трагедыі, што здарылася ўвечары ў мінулы панядзелак, даведаліся не з тэлевізійнага рэпартажу. Па бяздротавым тэлеграфе нядобрая вестка абляцела ўвесь горад...

На 348-м кіламетры, паблізу Ярцава, на аўтамагістралі Масква — Мінск — Варшава мясцовыя дарожнікі, якія грэйдэрамі прыбіралі снегавыя завалы на праезнай частцы, заўважылі на абочыне мікрааўтобус "Мерседэс" з гродзенскімі нумарамі, зверху зацярушаны снегам. Зазірнуць у салон рабочыя не адважыліся, бо на іх голас ніхто не адгукнуўся. А на адной з дзверцаў своечасова заўважылі тонкі дрот з замацаваным кальцом гранаты. Аб убачаным яны і паведамілі ў раённы аддзел унутраных спраў.

Ярцаўскія міліцыянеры, агледзеўшы "Мерседэс", яшчэ раз пераканаліся, што салон замініраваны, і звярнуліся за падмогай амапаўцаў-сапёраў у Смаленск.

Раніцою тым удалося размініраваць дзверцу, да якой было прымацавана гранатнае кальцо. Калі адкрылі яе, то на сярэдніх сядзеннях убачылі чатыры акрываўленыя трупы, якія ўпавал ляжалі адзін на адным. Яшчэ дваіх заўважылі за перагародкай, што аддзяляла пасажырскі салон ад грузавога адсека.

У апошнім таксама не абышлося без "сюрпрызу": да шасці каністраў з бензінам быў падкладзены выбуховы механізм запаволенага дзеяння — так званая гранатная "расцяжка". І з гэтай задачай сапёры-амапаўцы справіліся паспяхова. Абясшкодзілі выбуховае прыстасаванне, падалей ад бяды вынеслі каністры з палівам, дасталі загінуўшых...

Аднак калі пачалі абясшкоджваць яшчэ адно выбуховае прыстасаванне, тут і раздаўся характэрны "шчаўчок". Пачуўшы яго, маёр АМАПа Аляксандр Жалязнякоў не разгубіўся, па камандзе "палажыў" прысутных, паспеў адскочыць ад мікрааўтобуса і ткнуцца тварам у снег. Тут прагучаў выбух, які мог каштаваць новых жыццяў. Аднак некалькі секунд хапіла сапёрам, каб прыняць беспамылковае рашэнне. А дзвесце грамаў тратылу, як падлічылі спецыялісты, маглі нарабіць шмат бяды.

Асноўная версія, якую распрацоўвае следства, — рэкет, рабаванне з мэтай завалодаць значнай сумай грошай і каштоўнасцей (таварам). Перастраляць шэсць пасажыраў, сярод якіх была толькі адна жанчына, — задача не з лёгкіх. Хто стаў забойцам ці забойцамі? Фанатык-адзіночка? Добра ўзброеная банда? На гэтыя пытанні адкажа следства.

**Віктар СВІРКО.**

**Ад рэдакцыі.** *Хаця да моманту падпісання гэтага нумара газеты ўстаноўлены асобы ўсіх шасцярых прадпрымальнікаў, мы пакуль па розных прычынах устрымліваемся называць іх імёны. Выказваючы спачуванне сем'ям загінуўшых, мы накіравалі ў Гродна спецыяльнага карэспандэнта, які ў адным з бліжэйшых нумароў раскажа аб кожным з загінуўшых, аб пахаванні ахвяр бандытаў. Ахвяр, для якіх небяспечнай стала, здавалася б, ажыўленая міжнародная аўтамагістраль Масква — Варшава...*

**Не улетели лебеди**



Лебеди улетали на юг. А одна стая почему-то отсталась. Облюбовала себе отрезок Свислочи, что в районе столичной улицы Пулихова. Было лебедей сначала шестеро. Потом прибился седьмой, серый. Местные жители прозвали его Алешкой...

Сейчас их снова шестеро. Рассказывают, Алешку поймали и съели местные бомжи.

А стая все не улетает. Люди, что живут рядом, подкармливают лебедей. Вместе с лебедями кормятся и утки. Они более поворотливые, пытаются выхватить первыми кусочки хлеба. Однажды разозлившийся лебедь схватил клювом одну наглую утку, пару раз опустил ее в воду и откинул в сторону...

А лебеди все не улетают. Глупые, наверное...

**Анна СОУСЬ.**
**Фото Владимира КОРМИЛКИНА.**

**Дзякуй!**

## "Я хацеў бы падтрымаць вас..." —

сказаў інтэлігентнага выгляду чалавек, які днямі наведаўся ў нашу рэдакцыю. "Фінансавыя магчымасці, праўда, у мяне не бязмежныя, але тым не менш скажыце, чым канкрэтна я магу дапамагчы?" — дадаў незнаёмец.

Мы паказалі яму рэдакцыйны спіс інвалідаў і ветэранаў Айчыннай вайны, састарэлых, хворых і маламаёмных людзей з розных куткоў Беларусі, якія жадалі б, але з-за матэрыяльных цяжкасцей не могуць выпісаць "Народную волю". Госць папрасіў дазволу пакарыстацца гэтым спісам, накіраваўся з ім у бліжэйшае паштовае аддзяленне і — аформіў падпіску на "Народную волю" **20 чалавекам** на цэлае паўгоддзе!

Цудоўны пераднавагодні падарунак зрабіў дабрачынны ахвяравальнік многім сем'ям, чый парог не часта пераступае радасць. Шчыры дзякуй бескарысліваму, шчодраму чалавеку з добрым сэрцам!

Хацелася б, канешне, назваць яго поўнае імя ў газеце. Але як мы ні стараліся "выцягнуць" у нечаканага "Дзеда Мароза" хоць кароткія звесткі аб ім, нічога не атрымалася. "Я раблю гэта не для рэкламы. Завіце мяне проста — Віктар".

Што ж, мо яно так і трэба — добрыя справы робяцца часцей за ўсё ціха і нягучна, без шуму і фанфар. Ад сэрца, ад душэўнай чысціні і спагады.

Яшчэ раз шчыра дзякуем нашаму новаму сябру Віктару за падтрымку тых, каму без яе ў наш цяжкі час не абыйсціся. Жадаем яму ў новым, 1999 годзе, і надалей поспехаў ва ўсіх справах, здзяйснення ўсіх надзей і ўпэўненасці ў тым, што дабро заўжды вяртаецца да тых, хто яго творыць.

**Рэдакцыя "Народнай волі".**

**Надвор'е**

12 і 13 снежня на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае, з праясненнямі надвор'е.

12-га ўначы — на большай частцы тэтырорыі, ўдзень — па ўсходзе рэспублікі снег, мяцеліца. Вецер паўночны 9—14 м/с. Тэмпература паветра ўначы -6...-11, месцамі да -16. Удзень -5...-10.

13-га ўначы — без ападкаў. Удзень — па паўночна-заходняй палавіне снег, месцамі галалёд, вецер заходні, 7—12 м/с. Тэмпература паветра ўначы -10...-15, месцамі да -19. Удзень -6...-11; па захадзе рэспублікі 0...-5.

## В Новополоцке создается стачком

В Новополоцке прошла стихийная акция протеста рыночных торговцев против нового резкого повышения арендной платы, санкционированной владельцем рынка — горисполкомом. Предприниматели-палаточники наотрез отказались осуществлять двойную оплату за торговую площадь, превышающую четыре квадратных метра. Даже под угрозой привлечения к взиманию милиции. И добились своего.

Предприниматели провели собрание. Они узнали, что группа минских предпринимателей побывала на приеме у министра А.Ю.Сазонова и не получила ответа ни на один вопрос. А вопросов, и ключевых, было немало.

Ведутся попытки оформить резкое повышение налога на государственном уровне, увязав его с размером арендной платы торговых мест и площади рынка.

А ко времени декларирования доходов за 1998 год не исключен уже знакомый вариант — "совокупного годового дохода", но в другой обертке, как, к примеру, у частных нотариусов, каждый из которых вдруг "задолжал" государству по миллиарду рублей.

Именно эти проблемы, на которые ни министр, ни чиновники других ведомств не дают никакого ответа уже в течение долгого времени, вынудили участников собрания голосовать за создание стачкома. Поддержав акции рабочих и предпринимателей на местном и республиканском уровнях, торговцы новополоцкого рынка выразили намерение готовиться к бессрочной забастовке, к началу которой они прекратят уплату налога и других платежей, а также делегировали Шевченко В.Т. в создаваемый республиканский стачечный комитет. Голосовали "за" единогласно.

**Шевченко В.Т.,**
**председатель Независимого профсоюза частных предпринимателей Полоцка и Новополоцка.**

**Чулі?**

## Судовае пасяджэнне ў Кіраўску па справе В.Старавойтава перанесена з-за хваробы падсуднага

9 снежня судовае пасяджэнне па справе былога старшыні аграпрамысловага аб'яднання "Рассвет" Васіля Старавойтава, а таксама двух кіраўнікоў падраздзяленняў гэтай гаспадаркі перанесена з-за абвастрэння хранічнага бранхіту ў 74-гадовага падсуднага. У выпадку яго выздараўлення слуханні па справе могуць быць адноўлены 15 снежня.

Адвакат Вера Страмкоўская падала хадайніцтва аб змяненні меры стрымання Васілю Старавойтаву і вызваленні яго пад падпіску аб нявыездзе, матывавалушы гэта дрэннымі ўмовамі ўтрымання ў Бабруйскім следчым ізалятары і хваробай свайго падабароннага. Па словах Старавойтава, у камеры, дзе яго ўтрымліваюць, вельмі холадна — не больш чым 10 градусаў цяпла. У той жа час, згодна з даведкай з СІЗА, тэмпература ў камерах дасягае 19 градусаў цяпла.

Хадайніцтва адваката не было падтрымана прадстаўніком пракуратуры, які заявіў, што ўмовы ў Бабруйскім СІЗА адпавядаюць санітарным нормам. Пракурор таксама лічыць, што на здароўі В.Старавойтава негатыўна адбіваюцца хадайніцтвы аб змяненні меры стрымання, што заяўляюцца абаронай: яны, быццам, выводзяць падсуднага з псіхічнай раўнавагі. У выніку суддзя Надзея Чмара адхіліла чарговае хадайніцтва аб змяненні меры стрымання. У сувязі з гэтым родныя Старавойтава выказалі апасенне, што яго здароўе будзе пагаршацца і далей.

У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН адвакат Вера Страмкоўская заявіла, што ўлады нагнятаюць вакол гэтага працэсу атмасферу падазронасці і страху. Так, напрыклад, у Мышкавічах, дзе размешчана цэнтральная сядзіба гаспадаркі "Рассвет", нягледзячы на заканчэнне следства, дагэтуль знаходзіцца брыгада следчых. Ёсць звесткі, што яе знаходжанне там працягнута да сакавіка 1999 года. На думку некаторых наглядальнікаў, гэта зроблена для таго, каб уздзейнічаць на паказанні шматлікіх сведак, якія жывуць у Мышкавічах.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

